№ 4 красавік 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**Спадчына – адзіны запавет,**
**Спадчына – усіх асноў аснова...**
*Сяргей Грахоўскі*




## *У НУМАРЫ:*

# НАШЫ НАВІНЫ

4 красавіка сябры Таварыства беларускай мовы ў Паставах на сваім паседжанні правялі вечарыну беларускага гумару. Падчас яе свае жартоўныя творы чыталі Ігар Пракаповіч і Воля Лісіцкая, вершы і апавяданні беларускіх аўтараў – Людміла Сяменас, Вадзім Шышко і іншыя ўдзельнікі.

***

У сярэдзіне красавіка рупнасцю сяброў пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ, і асабліва Міхася Гіля, былі выдадзены невялікім накладам кнігі Ігара Пракаповіча "Назвы нашых вёсак" і Мікалая Арэха "Вёсачкі над Заражанкай".

***

У канцы красавіка ў мінскім выдавецтве "Кнігазбор" выйшлі ў свет новыя краязнаўчыя кнігі пра Пастаўшчыну: "Назвы нашых мясцін" (аўтар – Ігар Пракаповіч) і "1812. Вайна на Пастаўшчыне" (аўтары – Ігар Пракаповіч і Вадзім Шышко)

***

Стала вядома, што чарговы XVI Міжнародны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» пройдзе ў Паставах 7-9 чэрвеня. Па словах арганізатараў, пацвердзілі свой удзел у гэтым свяце Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль «Харошкі», група «Тяни-толкай», духавы аркестр і калектыў мастацкай самадзейнасці Смаргонскай пагранічнай групы. У рамках фестывалю адбудзецца адкрыццё мастацкай выставы па выніках пленэру, прысвечанага 180-годдзю мастака Альфрэда Ромэра, літаратурна-музычная імпрэза з удзелам членаў літаратурнага аб"яднання «Світанак», паэта, дырэктара замежнай рэдакцыі «Радыё Беларусь» Навума Гальпяровіча, пісьменніка і перакладчыка Анатоля Бутэвіча. Таксама адбудзецца канцэрт арганнай музыкі ў касцёле, конкурс выканаўцаў «Хто каго?», феерверк і шмат іншых цікавых імпрэз.

# НАШ КАЛЯНДАР

**500** гадоў назад (1513 г.) - першае згадванне ў гістарычных крыніцах Камаяў.

**400** гадоў назад (1613 г.) на карце ВКЛ Мікалая Радзівіла пазначаны населеныя пункты Пастаўшчыны: Паставы, Асінагарадок, Дунілавічы, Камаі, Лынтупы, Полава, Лучай, Ожунічы (Ажуны), Олбій (Голбія), Гадуцішкі.

**300** гадоў назад (1713 г.) кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II зацвердзіў прывілей аб заснаванні ў Паставах кірмашоў і базараў з прычыны спусташэнняў, якія прынеслі краю вайна, мор і засухі.

**300** гадоў назад (1713 г.) пабудавана ўніяцкая царква ў Паставах.

**110** гадоў назад (1903 г.) пабачыў свет фотаальбом "Парфорсная охота офицерской кавалерийской школы в имении «Поставы» Виленской губ. 1902 год", укладальнікам і аўтарам ілюстрацый для якога быў паручнік 41-га драгунскага Ямбургскага палка А.Далматаў.

**100** гадоў назад (1913 г.) купец Каган у вёсцы Гута пабудаваў шклозавод.

**50** гадоў назад, 25 красавіка 1963 года, ў вёсцы Гута нарадзіўся Трубач Леанід Мікалаевіч, беларускі настаўнік, паэт. Вершы друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах, у альманаху «Дзень паэзіі», зборніках «Рунь» (1985) і «Квадра» (1990). З'яўляўся адным з аўтараў калектыўных зборнікаў літаб'яднання «Світанак» у Паставах. Памёр 30 сакавіка 2009 г. У 2010 г. выйшла кніга твораў "Паміж песняй і болем".



## ПРА НОВЫЯ ВЫДАННІ ТБМ

Нядаўна выйшлі ў свет дзве невялікія краязнаўчыя кніжкі, якія падрыхтаваны пастаўскай раённай арганізацыяй Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Адна з іх - “Назвы нашых вёсак”.



Ігар Пракаповіч

Яе аўтар – краязнаўца і пісьменнік, настаўнік пастаўскай гімназіі Ігар Пракаповіч. Кніга ўяўляе сабой айканімічны слоўнік: у алфавітным парадку падаюцца варыянты сэнсавага значэння і паходжання 480 назваў населеных пунктаў Пастаўскага раёна. Гэта пер-шае выданне па тапаніміі гарадскіх паселішчаў і вёсак паўночна-заходняга рэгіёна Беларусі. Часткова некаторыя матэрыялы па назвах вёсак друкаваліся ў раённай газеце “Пастаўскі край”.

Аўтарам другой кнігі, “Вёсачкі над Заражанкай”, з’яўляецца настаўнік гісторыі Гуцкай школы Мікалай Арэх. У ёй сабраны матэрыялы пра гісторыю і побыт жыхароў невялікіх паселішчаў Манеўшчына, Харкі, Васілеўшчына і Кейзікі, якія выцягнуліся ланцужком уздоўж ракі Галбяіцы, ці, як яе там называюць, Заражанкі.



Мікалай Арэх

Гэтыя вёсачкі перажываюць далёка не лепшыя свае часы, некаторыя знаходзяцца на мяжы знікнення, таму падаецца вельмі важным тое, што аўтару ўдалося запісаць успаміны старажылаў гэтых мясцін і тым самым захаваць для нашчадкаў тое, што магло быць страчана назаўсёды.

Думаецца, новыя кнігі будуць карысныя ўсім, хто неабыякавы да мінуўшчыны роднага краю.

Багдан Лава



**Алег Трусаў**

*Старшыня ТБМ, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, дэпутат ВС Беларусі XII склікання*

# ЗНОЎ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ТРАСЯНКУ

Пасля выхаду ў свет майго інтэрв'ю «Нашай Ніве», якое без майго ведама маладая журналістка назвала «Лупіце на трасянцы», вырваўшы з кантэкста інтэрв'ю некалькі маіх жартаўлівых слоў, тэма трасянкі стала вельмі папулярнай у СМІ, асабліва ў інтэрнэце.

Прачытаўшы матэрыялы на розных блогах і каментары да іх, адразу хачу сказаць наступнае: разглядаючы розныя формы «трасянкі» як складовыя часткі беларускай мовы, я з павагай стаўлюся да тых людзей, якія размаўляюць на трасянцы, але імкнуцца, падкрэсліваю, імкнуцца праз яе паступова перайсці да шырокага ўжывання сённяшняй літаратурнай беларускай мовы. Але я ніколі не заклікаў на ёй свядома пісаць, як гэта мне прыпісаў адзін вядомы журналіст у сваім блогу. Калі гэта не частка мастацкага твора з мовай персанажа, то пісаць трэба адразу на сучаснай літаратурнай мове, а не займацца «дрындушкамі».

У якасці прыкладу прывяду досвед маскоўскай журналісткі Кацярыны Кібальчыч, якая называе сябе «трасянкамоўнай» і вырашыла спачатку ў Маскве, а потым у Мінску стварыць курсы па вывучэнні беларускай мовы для такіх, як і яна, «трасянкамоўных». Гэта ініцыятыва атрымала вялікую падтрымку і шырокі розгалас. І гэта зусім невыпадкова.

Звернемся да гісторыі пытання. Трасянка як лінгвістычны тэрмін з'явілася ў 90-я гады XX ст. Магчыма, што першым яго пачаў выкарыстоўваць Зянон Пазняк. З'явілася яна як польска-беларуская моўная з'ява сярод нашых магнатаў і шляхты ў XVII і асабліва ў XVIII ст. Дастаткова ўспомніць славутую прамову «Мялешкі» ў сойме ў XVII ст., якая заклікала дэпутатаў гаварыць па-беларуску. Пасля ліквідацыі Рэчы Паспалітай, у пачатку XIX ст., паланізацыя на Беларусі пры спрыянні Аляксандра І яшчэ больш узмацнілася, і гарадская эліта перайшла на польскую мову, якую сапраўдныя палякі называлі «крэсовай», альбо «простай», бо беларускі ўплыў у ёй моцна адчуваўся. Дастаткова пачытаць Міцкевіча або Крашэўскага.

Але ў сярэдзіне XIX ст. і асабліва ў канцы XIX-пачатку XX ст. «трасянкамоўная», «ліцвінская» беларуская шляхта стварае на яе грунце і на аснове розных дыялектаў беларускіх сялянскіх гаворак новую літаратурную беларускую мову. У гэты час узнікае ў нашых гарадах і руска-беларуская трасянка.




Хачу прыгадаць, што Купала пачынаў пісаць вершы па-польску, а Колас - па-руску. Першыя іх беларускія тэксты мелі шмат польскіх і рускіх слоў, але паступова яны зніклі і замяніліся іншымі. Так, слова «гасударства» было заменена на «дзяржаву», а «граніца» на «межы» і г.д.

На тэму трасянкі праведзена шмат розных лінгвістычных даследаванняў. Так, у 2010 г. чэшскі ўніверсітэт з горада Усці над Лабай выдаў на рускай мове манаграфію Іны Каліты пад назвай «Современная Беларусь: языки и национальная идентичность», дзе прыводзяцца розныя асаблівасці сучаснай беларускай трасянкі. На гэтую ж тэму ёсць публікацыі С.Запрудскага і іншых даследчыкаў. Таму нам не мае сэнсу паглыбляцца ў філалагічныя дыскусіі. Лепш звернемся да гістарычных фактаў.

Новая хваля татальнай русіфікацыі захліснула Беларусь пасля 1959 года, калі дазволілі вызваляць па просьбе бацькоў дзяцей

ад вывучэння беларускай мовы ў рускамоўных школах. У гарадах былі зачынены ўсе беларускамоўныя школы, а ў Мінску нават беларускую літаратуру выкладалі па-руску. Цікава, што ў СССР беларуская трасянка і ўкраінскі суржык (чытай, побытавае маўленне) жорстка высмейваліся з мэтай канчаткова перавесці іх носьбітаў на «великий и могучий». Асабліва гэта было ў войску і ВНУ. Сітуацыя пачала змяняцца ў часы перабудовы, калі трасянка пачала выходзіць з падполля і паступова мець не толькі адмоўнае, але і станоўчае значэнне, калі носьбіт трасянкі імкнуўся не канчаткова адмовіцца ад усяго беларускага, а, наадварот, стаць сапраўдным беларусам, які валодае сучаснай беларускай мовай і штодня ёю карыстаецца. Я праходзіў гэты шлях два гады: з 1980 па 1982 год. У гэтыя гады я пачаў працаваць са студэнтамі і заахвочваў іх гаварыць спачатку на трасянцы, а потым пераходзіць на прыгожую літаратурную мову.

Сярод маіх вучняў зараз ёсць дактары і кандыдаты навук, людзі, якімі ганарыцца наша эліта і якія пачыналі са звычайнай трасянкі, бо нельга рускамоўнаму беларусу адразу загаварыць як Гілевіч ці Караткевіч. Што тычыцца пісьмовай мовы, то тут трасянка выключаецца, бо ёсць слоўнікі і кожную памылку можна хутка выправіць.

Дарэчы, у нашай гісторыі быў цікавы выпадак, калі на трасянцы гаварыў і вёў пасяджэнні Вярхоўнага Савета БССР у 1990-1991 гадах яго старшыня Мікалай Дземянцей. Было смешна, але не па-руску, і тады дэпутаты загаварылі па-беларуску і зрабілі ў 1994 годзе адзінай дзяржаўнай мовай у першай Канстытуцыі незалежнай Беларусі беларускую.

Згодна з сацыялагічным апытаннем (2009 год), на трасянцы ў Беларусі размаўляе 22,5 %, а толькі па-беларуску - 4,3 %.

Таму зараз трасянка на Беларусі павінна быць не «шашалем», як у часы Рэчы Паспалітай ці СССР, а бінтом на ранах здратаванай Беларушчыны, пераходным мастком да сапраўднай еўрапейскай незалежнай і дэмакратычнай Беларусі, дзе будзе адна дзяржаўная мова - беларуская, дзе людзі будуць ведаць розныя мовы, карыстацца імі, але дома і на працы, з дзецьмі і бацькамі гаварыць на роднай беларускай мове.

**Людміла Сяменас**



# ЛЕСВІЦА МОВЫ

Апошнім часам мяне вельмі цікавіць адно пытанне. Чаму беларусы так занядбалі сваю мову? Калі параўноўваць з другімі рэспублікамі былога союза, то ні ў адной з іх мова не была ў такім плачэўным становішчы, як у беларусаў. А з развалам союза і набыццём незалежнасці нацыянальныя мовы ў гэтых краінах занялі належнае ім месца. Толькі не ў Беларусі: беларуская мова ледзь дыхае, і то дзякуючы намаганням апантаных людзей, а не дзяржавы, якая, здавалася б, павінна дбаць пра нацыянальную мову перш за ўсё. У сувязі з гэтым я прапаную прасачыць шлях, які прайшла мова: яе панаванне і занядбанне.

1. Другая палова 14 ст., князь Альгерд. Афіцыйнай мовай (мовай справаводства) з’яўляецца беларуская.

2. 1517 год. Наш вядомы Ф. Скарына выдае першыя друкаваныя кнігі і піша прадмовы да іх. Па сутнасці, на літаратурнай беларускай мове.

3. 1569г. ВКЛ і Польшча аб’ядналіся ў Рэч Паспалітую (рэспубліку). ВКЛ была вымушана пайсці на гэты крок. Як кажуць, з двух зол выбіраюць меншае: Польшча, як і Масковія, імкнулася падпарадкаваць сабе ВКЛ, толькі рабіла гэта, у адрозненне ад Масковіі, больш далікатна. На выніках гэтага аб’яднання трэба прыпыніцца асобна. Калі кажуць, што дзве культуры могуць мірна суіснаваць і развівацца, то гэта хлусня. Дзве культуры ніколі не могуць разам развівацца. Рана ці позна адна з культур, найбольш моцная, паглыне слабейшую. Так здарылася і з ВКЛ. Польская культура, менш аслабленая набегамі Масковіі, аказалася мацнейшай. У выніку ў 1697 годзе ў Рэчы Паспалітай забаранілі ўжываць у дзяржаўным справаводстве беларускую мову. Гэта была першая паланізацыя.

4. Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай: 1772,1793, 1795, калі ВКЛ часткова, а пазней цалкам адышла да Расіі, беларусы (а тады яны называлі сябе ліцвінамі), не прызнаваліся

як самастойная нацыя. Уладары Масковії нас лічылі рускімі, сапсаванымі польскім уплывам.

5. 1830-31 гг. Паўстанне супраць Расіі. Паўстанне было знішчана. У 1832 годзе зачыняюць Віленскі ўніверсітэт як крыніцу вальнадумства.




6. 1863 год. Паўстанне Кастуся Каліноўскага і яго беларускамоўная газета "Мужыцкая праўда". Паўстанне было падаўлена войскамі Расіі, Каліноўскі павешаны, тысячы сасланы ў Сібір на капальні. Губернатар Паўночна-Заходняга краю Мураўёў казаў: "Тое, што не зрабіў расійскі штык, зробіць руская школа і праваслаўная царква". Як вынік знішчаны ўніяцкі Сабор, дзе жыла беларуская мова.

7. Другая палова 19 стагоддзя. Адраджэнне беларускай нацыянальнай свядомасьці сярод беларускай шляхты. У адукаваных людзей пачало абуджацца нацыянальнае пачуццё, яны ўсведамляюць сябе сынамі сваёй зямлі: Ян Баршчэўскі, Уладзіслаў Сыракомля, Дунін-Марцінкевіч. Крылатыя словы адваката Францішка Багушэвіча: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі !" На працягу ўсяго 19 стагоддзя расейскі ўрад забараняў афіцыйнае выкарыстанне беларускай мовы.

8. Пачатак 20 стагоддзя, 1906-1915 гады. Дзейнасць газеты "Наша ніва", Колас, Купала, Багдановіч, браты Луцэвічы, Бядуля, Верас і інш. Вацлаў Ластоўскі ўпершыню ў гісторыі беларускага народа агучыў нацыянальную ідэю: стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы. Дазвол на афіцыйнае выкарыстанне беларускай мовы пасля рэвалюцыі 1905-1907 гг.

9. 1924-1927 гады адзначыліся нацыянальным уздымам. Хоць у той час і існавала аж чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, руская, польская і ідыш, менавіта беларуская мова панавала ў грамадстве. 80% чыноўнікаў і кіраўніцтва Чырвонай Арміі валодалі беларускай мовай.

10. Затым нацыянальны ўздым змяніўся рэпрэсіямі супраць нацыянальна свядомых беларусаў. Мяркуйце самі: амаль 90% беларускай інтэлігенцыі былі рэпрэсіраваны. Адны былі расстраляныя па сфальсіфікаваных справах, другія сасланыя ў ГУЛаг. Пад рэпрэсіі трапіў і наш зямляк У. Дубоўка, правёў 28 гадоў у лагерах і ссылках.

11. 1941-1945. Вялікая Айчынная вайна. Як ні дзіўна, яна адзначылася яшчэ адным нацыянальным уздымам. Пазней, пасля вайны, гэты рух савецкімі




прапагандыстамі быў названы "калабаранцтвам". На тэрыторыі амаль усёй Беларусі адчыняліся беларускія школы і гімназіі. Немцы не перашкаджалі гэтаму. Змест адукацыйнага працэсу быў цалкам беларускамоўным і садзейнічаў абуджэнню нацыянальнай свядомасці. Але такія працэсы не падабаліся савецкім кіруючым арганам, і таму беларускія школы палілі партызаны, а настаўнікаў нярэдка расстрэльвалі.

12. Пасля вайны, калі пачаў аднаўляцца адукацыйны працэс, а змест навучання быў савецкім і рускамоўным, менавіта тыя вучні, якія вучыліся ў школах пры немцах, пачалі ствараць нацыянальна-культурніцкі

асяродак, каб захаваць беларускі дух. Так на Пастаўшчыне і Глыбоччыне ў педвучылішчах дзейнічаў Саюз беларускіх патрыётаў. Па сённяшні дзень у Паставах жыве сям'я Фурсаў, яны былі ўдзельнікамі таго аб'яднання. Улады высачылі гэтых дзяцей (ім было па 16-18гадоў), аб'явілі Саюз беларускіх патрыётаў здрадніцкай арганізацыяй. Іх судзілі як здраднікаў і далі ад 5 да 25 гадоў. Фурсы пакінулі 10 гадоў свайго жыцця ГУЛагу.

13. 1960-1970 гады мінулага стагоддзя адзначыліся брутальным знішчэннем беларускага слова. Было аб'яўлена з'яўленне новай супольнасці – савецкі народ, а праяўленне ўсялякай нацыянальнай адметнасці расцэньвалася як перажытак капіталізму. Трэба адзначыць, што Беларусь у гэтай бруднай справе была першай сярод другіх народаў Саюза: амаль што вынішчыла беларускасць. Асабліва гэта было бачна на прыкладзе ваеннага гарадка Паставы. Заезджыя ваенныя з пагардай ставіліся да беларускай мовы і культуры. Для іх мы былі тубыльцамі. А "тубыльцы" з усіх сіл імкнуліся стаць цывілізаванымі рускімі, хутчэй забыць беларускую мову і каб акцэнту не засталося.

14. Але тое зерне, якое было пасеяна стагоддзе таму, прарасло. Беларушчына пачала прарастаць ва ўніверсітэцкіх кругах у 80-х гадах мінулага стагоддзя. Пачалі ўзнікаць беларускамоўныя суполкі, з'яўляліся беларускамоўныя рок-гурты: "Крама"

15. У рэшце рэшт спраўдзілася мара "нацдэма". 1991год – Беларусь набыла незалежнасць. 1993 год – зацверджаны "Закон аб мовах", дзе беларуская надзялялася статусам адзінай дзяржаўнай мовы. Школы і ўніверсітэты пераходзяць на беларускую мову, выдаецца шмат літаратуры на беларускай мове.

16. Але гэта доўжылася ўсяго два гады. 1995 год – вядомы рэфэрэндум аб мовах, дзе беларусы прагаласавалі за дзве дзяржаўныя мовы: рускую і беларускую. Вынік гэтага рэфэрэндуму – беларуская мова зноў стала падчаркай у сваім доме. Але спіраль гісторыі раскручваецца далей: не за гарамі новае адраджэнне мовы і культуры. Адзінае, што хочацца зазначыць: нам не трэба яго чакаць, нам трэба яго ствараць!

# ГОЛАС З РЭЗЕРВАЦЫІ



Нядаўна паэт з вёскі Хрыстова, што ў Пастаўскім раёне, Луцыян Шчасны выдаў сваю трэцюю кнігу вершаў. Называецца яна "Голас з рэзервацыі". Уклаў кнігу і напісаў прадмову вядомы паэт Янусь Малец. Прапануем увазе чытачоў адзін верш з рэзервацыі…

## ПРА ПАЭЗІЮ

*Дажывае май бязродны,*
*Падступае лета.*
*Не прэстыжна і нямодна*
*Быць цяпер паэтам.*

*Калі ты ў пару такую*
*Маеш грошай лішку,*
*Можа, дзе і надрукуеш*
*Сваіх вершаў кніжку.*

*І пад вокладкай набудуць*
*Твае творы месца,*
*Толькі іх чытаць не будуць*
*Анідзе, здаецца.*

*У куточку на паліцы*
*Ў скрушным задуменні*
*Будуць вершыкі пыліцца,*
*Ці бяздарны ты, ці геній.*

*Будуць годзікі ліхія*
*Набірацца сілы,*
*Да паэзіі глухія*
*З"явяцца дэбілы.*

*Можа, хто з іх адкапае*
*Твор твой скамянелы;*
*Пацячэ сляза скупая*
*Па шчацэ збялелай.*

*Верш дэбілу, братцы,*
*Пэўна ж, недасяжны,*
*Важна плакаць і смяяцца,*
*А над чым – не важна!*

## Мясцовыя гісторыі



**Ігар Пракаповіч**

# ФРАНЦУЗСКІ СКАРБ

Паміж Белькамі і Барэйкамі ёсць урочышча Ольшнева. У мінулым там расло многа дубоў. Частку іх спілавалі людзі, некаторыя былі спаленыя маланкамі, іншыя ж загінулі самі ад старасці. Але і зараз у той мясцовасці яшчэ сустракаюцца дубы-волаты.

Дык вось, пад адным з іх знаходзіцца багаты скарб. Паводле легенды, з'явіўся ён тут у часы вайны з Напалеонам. Калі французы адступалі з Масквы, то везлі з сабой шмат нарабаваных каштоўнасцяў. Руская армія грозна рухалася следам і не давала напалеонаўцам ачомацца. Таму абозы з нарабаваным дабром падзяліліся на невялікія атрады, кожны з якіх ратаваўся сам па сабе. Так адна карэта з золатам і срэбрам пад аховай невялікай групы жаўнераў патрапіла ў наш край. Французы спяшаліся хутчэй пакінуць гэту варожую да іх зямлю, але рухацца было цяжка, бо восеньскія дажджы размылі дарогі, вада ў рэках моцна разлілася. Ды яшчэ да таго ж і моцна захаладала.

На пераездзе ўброд праз невялікую рачулку карэта загразла. Тузаліся-тузаліся французы, а рады даць не маглі. А рускія былі ўжо блізка. Тады скінулі яны скрыні і мяхі са скарбамі з карэты ды і закапалі пад бліжэйшым дубам. Пэўна, спадзяваліся, што ўдасца пазней вярнуцца. Самі ж падаліся наўцёкі.



Малюнак Кацярыны Дунец

Але, мусіць, далёка не ад'ехалі. Кажуць, дагналі іх рускія каля Войнеўкі ды і пабілі. Там ёсць яшчэ французскія магілы.

А скарб, напэўна, і сёння ляжыць пад адным з дубоў-волатаў…



*Шыпшына*
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч
Карэктар: Аліна Латыш
Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52.
Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч
*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*
*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*
*Наклад 100 асобнікаў*